

БЕЛАРУСЬ—БАЛГАРЫЯ
ВЫЙСЦЕ З КРЫЗІСУ — ПАРТНЁРСТВА 2 стар.

МЕРКАВАННЕ
ІНТЭРНЭТМАНІЯ НАС МІНУЛА. АЛЕ... 3 стар.

СПОРТ. НАВІНЫ 2 стар.



СПАДЧЫНА
«РУБОН» — АЛЬМАНАХ, ЯКІ ЎВАСКРЭС ПРАЗ 100 ГАДОЎ 5 стар.

«ЛІТЭКСПРЭС-2000»
Леанід ДРАНЬКО-МАЙСЮК:
«ЕЎРОПА ЯШЧЭ АДКРЫЕ ДЛЯ СЯБЕ «СЫМОНА-МУЗЫКУ» Якуба КОЛАСА» 6 стар.



Васіль БЫКАЎ, Рыгор БАРАДУЛІН
«ЛІСТЫ З ХЕЛЬСІНКІ»
*(ПРАЦЯГ)* 7 стар.

АЛІМПІЙЦЫ
ЖАЛЕЗНЫЯ ГУЛЬНІ Яны КАРОЛЬЧЫК 8 стар.

**АГУЛЬНАЯ БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА** **РАСПАЎСЮДЖВАЕЦЦА Ў 48 КРАІНАХ**

# Голас Радзімы

6 снежня 2000 года
Цана 95 рублёў

**№ 49 (2711)**

Штотыднёвая газета для суайчыннікаў за межамі Беларусі
Выдаецца з 6 красавіка 1955 года

ФЕСТЫВАЛІ



*Прэзідэнт "Лістапада" Расціслаў ЯНКОЎСКІ.*



*Мікалай ЯРОМЕНКА (малодшы) атрымлівае спецыяльны прыз "За гуманізм і духоўнасць у кінамастацтве", якога ўдастоены пасмяротна яго бацька, народны артыст Беларусі і СССР Мікалай ЯРОМЕНКА.*

## «ЛІСТАПАД»...

У гэтым годзе чарговы, сёмы Міжнародны кінафестываль краін Садружнасці Незалежных Дзяржаў і Балтыі адкрыўся прэм'ерай фільма беларускага рэжысёра Міхаіла Пташука "У жніўні сорак чацвёртага..." сумеснай беларуска-расійскай вытворчасці. Прэм'ерны фільм адразу стаў лідэрам. Пра яго шмат гаварылі і пісалі ў розных выданнях, хаця да гэтага фестывальнага паказу ніхто не мог бачыць: у Мінск прывезена адзіная копія, іншых яшчэ і не існуе.

Такая цікавасць да фільма невыпадковая, бо гадоў 10—15 назад кніга У. Багамолава "Момант ісціны", па матывах якой зроблена кінастужка, стала бестселерам. У рамане ўпершыню ў савецкай літаратуры прыадкрыта невядомая старонка з гісторыі мінулай вайны — дзейнасць групы асобага падраздзялення СМЕРШ, якая праводзіла аперацыю па выкрыццю дыверсантаў у вызваленых раёнах Заходняй Беларусі. Кніга адпавядае ўсім правілам дэтэктыўнага жанру, і болей таго — адпавядае рэчаіснасці. Сам аўтар быў удзельнікам тых падзей.

Спачатку цікавасць да фільма падагрэў канфлікт паміж пісьменнікам і кінематаграфістамі. Напярэдадні паказу Багамолаў у некаторых газетах выказваў сваю нязгоду з рэжысёрскай канцэпцыяй фільма і адмяжоўваўся ад яго. Таму выкажу меркаванне радавога гледача,

Заканчэнне на 3-й стар.

## І «ЛІСТАПАДЗІК»...

Кінафестываль "Лістапад" праводзіцца ўжо сёмы год. Але сёлетняя яго адметнасць у тым, што разам з "дарослым" "Лістападам" упершыню праходзіць кінафестываль для дзяцей — "Лістападзік".

Як зазначыў прэзідэнт фестывалю Расціслаў Янкоўскі, фільмы на "Лістападзіку" — для дзяцей і пра дзяцей.

Усяго гледачы змаглі пабачыць конкурсныя работы з чатырох краін: "Сёмы маленькі брат" — Венгрыя, "Кірыку і чараўніца" — Францыя, а таксама два конкурсныя фільмы ад Расіі: "Маленькая прынцэса" Уладзіміра Грамацікава і мультфільм "Нязнайка на Месяцы". Нашу краіну прадстаўляла стужка "Зорка Венера" рэжысёра М. Касымавай. Трэба сказаць, што фільм атрымаўся выдатны, а некаторыя гледачы расчуліліся нават да слёз.

Лепшы фільм даручылі выбіраць саміх маленькім гледачам. Кожны з іх пры ўваходзе атрымліваў паперкі з лічбамі ад аднаго да пяці і пасля прагляду ставіў балы. Канешне, было яшчэ адно журы — прафесійнае. Туды ўваходзілі тэатральны рэжысёр, мультыплікатар, рэдактар газеты "Пераходны ўзрост", некалькі журналістаў, у тым ліку і прадстаўнік "Голасу Радзімы".

Пераможцы фестывалю: анімацыйны фільм "Кірыку і чараўніца" (Францыя), выканаўца галоўнай ролі ў фільме "Зорка Венера" — Лена Барушка, прыз сімпатый гледачоў — "Рэактыўная парасё" ("Беларусьфільм").

**P. S.** *Спонсары фестывалю — кампаніі "Багдад-чай", "Чупа-чупс XXL", "Маркел", мастацкая галерэя "LaSandr", а таксама Акадэмія мастацтваў і Беларускі саюз моладзі.*

**Глеб ЛАБАДЗЕНКА,**
**член журы кінафестывалю "Лістападзік".**

АФІЦЫЙНА

## НОВЫЯ НАЗНАЧЭННІ

*Як паведамілі БЕЛТА з прэс-службы Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь, 27 лістапада г. г. А. Р. Лукашэнка разгледзеў шэраг кадравых пытанняў. У адпаведнасці з Указам Прэзідэнта вызвалены ад займаемых пасад:*

**Шэйман** Віктар Уладзіміравіч — ад пасады дзяржаўнага сакратара Савета бяспекі Рэспублікі Беларусь — памочніка Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь па нацыянальнай бяспецы ў сувязі з пераводам на іншую работу. У адпаведнасці з Указам Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь генерал-маёр Шэйман Віктар Уладзіміравіч звольнены з ваеннай службы ў запас;

**Мацкевіч** Уладзімір Аляксандравіч — ад пасады старшыні Камітэта дзяржаўнай бяспекі і залічаны ў распараджэнне старшыні Камітэта дзяржаўнай бяспекі Рэспублікі Беларусь;

**Бажэлка** Алег Аляксандравіч — ад пасады Генеральнага пракурора Рэспублікі Беларусь у сувязі з пераводам на іншую работу.

*У той жа дзень кіраўнік дзяржавы сваімі ўказамі назначыў:*

**Латыпава** Урала Рамдракавіча — дзяржаўным сакратаром Савета бяспекі Рэспублікі Беларусь — памочнікам Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь па нацыянальнай бяспецы, вызваліўшы яго ад пасады намесніка прэм'ер-міністра — міністра замежных спраў Рэспублікі Беларусь;

**Хвастова** Міхаіла Міхайлавіча намеснікам прэм'ер-міністра — міністрам замежных спраў Рэспублікі Беларусь, вызваліўшы яго ад пасады памочніка Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь;

**Ерына** Леаніда Ціханавіча — старшынёй Камітэта дзяржаўнай бяспекі, вызваліўшы яго ад пасады начальніка Службы бяспекі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь;

**Нікіціна** Валянціна Захаравіча — намеснікам старшыні Камітэта дзяржаўнай бяспекі Рэспублікі Беларусь;

**Удовікава** Міхаіла Дмітрыевіча — намеснікам дзяржаўнага сакратара Савета бяспекі Рэспублікі Беларусь, вызваліўшы яго ад пасады першага намесніка міністра ўнутраных спраў Рэспублікі Беларусь — начальніка міліцыі.

ЮБІЛЕІ

## РАДЗІМА АДДЗЯЧВАЕ ЛЮБОЎЮ



Факт неаспрэчны: усё свядомае жыццё Уладзіміра Караткевіча было прысвечана служэнню Беларусі. Ён пакліканы да дзеяння ў нялёгкі для яе час, калі занядбанай была гістарычная спадчына, традыцыйная народная культура, а многія адгалінаванні сучаснага мастацтва пазбаўлены нацыянальнай адметнасці.

Можа здацца дзівам, як юнаку, які нарадзіўся ў прамыслова-чыгуначнай Оршы, адкрыўся абсяжны далягляд бачання свайго патрыятычнага (грамадзянскага і пісьменніцкага) прызвання. Мо паспрыяла гэтаму тое, што па матчынай лініі паходзіў са старадаўняга шляхецкага роду, і ягоны дзед быў жывым увасабленнем гісторыі роднага краю, мо паспрыяла

Заканчэнне на 2-й стар.

«ГР»
НА БЕЛАРУСІ ПАДПІСАЦЦА МОЖА КОЖНЫ! Індэкс 63854, кошт на І паўгоддзе 2001 года — 3090 рублёў.
**На Міншчыне можна набыць у Барысаве, Капылі, Слуцку, Салігорску, Старых Дарогах.**
УКЛЮЧАНЫ Ў ПАДПІСНЫЯ КАТАЛОГІ РАСІІ, УКРАІНЫ, ЛІТВЫ, КАЗАХСТАНА, КІРГІЗІІ.

## ЗНАК ЯКАСЦІ



У аб'яднанні "Віцебскія дываны" запушчана ў эксплуатацыю новае абсталяванне германскай фірмы "Шанхер" для вытворчасці васьмiколерных двухпалотных жакардавых дываноў. Яно здольнае выпускаць да 15 тысяч метраў дыванowых вырабаў у месяц. У цырымоніі запуску новага станка прынялі ўдзел прэзідэнт канцэрна "Беллегпрам" Уладзімір Дзямідаў і віцэ-прэзідэнт канцэрна Анатоль Гураў.

НА ЗДЫМКУ: работніца аб'яднання Наталля ВІНАГРАДАВА.

БелТА.

## ПРАЕКТЫ

### УРАД РАСІІ АДОБРЫЎ ПРАЕКТ УВЯДЗЕННЯ АДЗІНАЙ РАСІЙСКА-БЕЛАРУСКАЙ ГРАШОВАЙ АДЗІНКІ

Урад РФ на пасяджэнні 16 лістапада прыняў рашэнне аб падачы Прэзідэнту РФ прапановы аб падпісанні пагаднення паміж Расіяй і Беларуссю аб увядзенні адзінай грашовай адзінкі і фарміраванні адзінага эмісійнага цэнтра саюзнай дзяржавы.

Ролю адзінай грашовай адзінкі саюзнай дзяржавы з 1 студзеня 2005 года, адпаведна пагадненню, будзе адыгрываць расійскі рубель. З 1 студзеня 2008 года плануецца ўвядзенне адзінай грашовай адзінкі саюзнай дзяржавы на аснове пагаднення паміж РФ і Беларуссю.

Адпаведна праекту пагаднення, урад РФ і Цэнтральны банк акажуць у 2000—2004 гадах падтрымку ў стабілізацыі плацежнага балансу Беларусі і курсу беларускага рубля да расійскага рубля, у тым ліку пры дапамозе крэдытаў у расійскіх рублях або замежнай валюце ўраду Беларусі і Нацыянальнаму банку краіны.

Урад і Цэнтральны банк РФ і ўрад і Нацыянальны банк Беларусі павінны ўнесці ў найвышэйшы дзяржаўны савет саюзнай дзяржавы прапановы аб статусе, задачах і функцыях адзінага эмісійнага цэнтра для ўключэння ў канстытуцыйны акт дзвюх краін, распрацоўка якога прадугледжана дагаворам аб стварэнні саюзнай дзяржавы.

Адпаведна праекту пагаднення, фарміраванне адзінага эмісійнага цэнтра саюзнай дзяржавы, выкарыстанне расійскага рубля ў якасці адзінага законнага плацежнага сродку і яго хаджэнне на тэрыторыі рэспублікі Беларусь будуць вызначацца асобнымі пагадненнямі.

## СПОРТ

**ТЭНІС.** На турніры Масцерс у Парыжы беларус Максім Мірны разам са шведам Н. Кулоці выйгралі галоўны прыз у пары.

**БАСКЕТБОЛ.** У адборачным першынстве Еўропа-2001 беларуская мужчынская зборная па баскетболу атрымала перамогу над зборнай Чэхіі 78:60. Наступны паядынак беларусы прайгралі зборнай Польшчы.

**НАСТОЛЬНЫ ТЭНІС.** Міжнародная федэрацыя настольнага тэнісу апублікавала новы рэйтынг на аснове турніраў, якія ўжо прайшлі. Беларус Уладзімір Самсонаў займае трэцяе месца, набраўшы 588 ачкоў. У лепшай з нашых жанчын — Вікторыя Паўловіч — 24-е месца.

Падрыхтаваў **Міхаіл МАЗАКОЎ.**

## ЗДАРЭННІ

З поезда Мінск — Варшава № 103 брэсцкімі тамажнікамі быў зняты кантрабандны груз — 245 чарапах. Пасажырка ўзбекскай нацыянальнасці ад чарапах, якія былі складзены ў матрацы, адмовілася і паехала ў Мінск. А чарапахі трапілі на склад "Бізнес-цэнтра", куды прыходзяць многія грузы з таможні. З такім відам канфіскату работнікам давялося сутыкнуцца ўпершыню. Для чарапах быў прыгатаваны пакой з гарачай батарэяй, тэмпературай не ніжэй за + 25 градусаў, засыпаны апілкі, устаноўлены паддон з вадой. Капусту, моркву, яблыкі работнікі прыносяць з дому. Тут чарапахі прабудуць 30 дзён — каранцінны тэрмін, за гэты час неабходна вырашыць іх далейшы лёс.

НА ЗДЫМКУ: загадчыца склада Людміла ШАПІРА з такім грузам, як сухапутныя чарапахі, сустракаецца ўпершыню.

**Раман КАБЯК,** БелТА.



## АБ'ЯВЫ



## СТАСУНКІ: БЕЛАРУСЬ — БАЛГАРЫЯ

# ВЫЙСЦЕ З КРЫЗІСУ – ПАРТНЁРСТВА

На гэты раз памяшканне Дома дружбы, дзе адбываюцца сустрэчы, нагадвала канферэнц-залу міжнароднага бізнес-цэнтра. Гаспадарамі яе былі кіраўнікі мэрый, бізнесмены гарадоў-пабрацімаў Беларусі і Балгарыі. Нагадаем, што пабрацімскія сувязі маюць 16 гарадоў, падпісана 18 дамоў аб супрацоўніцтве рэгіёнаў Беларусі і Балгарыі ў галіне эканомікі, навукі, культуры, адукацыі, спорту. Чакалася, што ў ходзе сустрэчы будуць наладжаны новыя кантакты. Ва ўсякім разе з гэтай мэтай прыбылі пасланцы ўжо 9 гарадоў. А цяпер у Мінску сустрэліся прадстаўнікі Бургаса і Гомеля, Стара Загоры і Мазыра, Варны і Мінска, Габрава і Магілёва, Сілістры і Ліды, Кюстэндзіла і Рэчыцы, Прымогрска і Мядзеля і інш.

Мэта сустрэчы — развіццё двухбаковых адносін, якія па шэрагу прычын амаль спыніліся. Удзельнікаў яднала імкненне вызначыць, што можна зрабіць разам у складаней сацыяльна-эканамічнай сітуацыі, каб падтрымаць адзін аднаго, як гэта не раз ужо было ў гісторыі.

А становішча амаль крытычнае. Калі яшчэ ў 1989 годзе Балгарыя была для нас замежным партнёрам нумар два — тавараабарот складаў 650 мільёнаў долараў, то сёння знешнеэканамічнае супрацоўніцтва паміж краінамі практычна спынілася. У мінулым годзе тавараабарот склаў 29 мільёнаў долараў, сёлета зніжэнне працягваецца. Да мінімуму скараціліся імпарт і экспарт тавараў, удзельная вага Балгарыі ў агульным тавараабароце Беларусі складае 0,4 працэнта.

Усё гэта непакоіць беларускі ўрад. Прымаюцца кардынальныя меры. У адпаведнасці з дамоўленасцю аб лібералізацыі ўзаемнага гандлю Пастановай Савета Міністраў Беларусі ад 19 ліпеня 2000 года Балгарыя ўключана ў лік краін, якія карыстаюцца найбольш спрыяльным рэжымам гандлю з Беларуссю. Гэта дае магчымасць знізіць мытную пошліну на тавары з Балгарыі на 25 працэнтаў. Урадамі краін падпісаны пагадненні аб заахвочванні і ўзаемнай абароне інвестыцый, аб супрацоўніцтве ў галіне турызму, адукацыі, навукі і культуры. У лютым 1998 года ўступіла ў сілу пагадненне аб пазбяганні двайнога падаткаабкладання на даходы і капіталы.

— Цяпер галоўнае, што можа змяніць сітуацыю, — наша жаданне мацаваць рэгіянальныя сувязі, наладжваць прамыя кантакты паміж суб'ектамі гаспадарання, — зазначыў, звяртаючыся да ўдзельнікаў сустрэчы, мэр Мінска, старшыня Беларускай асацыяцыі пароднeных гарадоў Міхаіл Паўлаў.



*Міхаіл ПАЎЛАЎ.*

Адзін з прыярытэтных напрамкаў развіцця вынікова супрацоўніцтва бачыцца ў стварэнні сумесных вытворчасцей. На сённяшні дзень зарэгістравана толькі 13 сумесных беларуска-балгарскіх прадпрыемстваў і 11 са стопрацэнтным балгарскім капіталам. У Балгарыі існуе 14 сумесных прадпрыемстваў, 6 беларускіх гандлёвых прадстаўніцтваў.

На сустрэчы прагучала, што мэры, бізнесмены гарадоў павінны навучыцца лабіраваць свае інтарэсы і інтарэсы адзін аднаго як надзейныя партнёры. Прыкладам такога партнёрства было названа наладжванне ў Балгарыі зборкі трактароў МТЗ. Але існуе нямала і недарэчнасцей. Напрыклад, Балгарыя вызначыла для Літвы і Беларусі аднолькавы спрыяльны рэжым, але на беларускія халадзільнікі ўстаноўлена самая вялікая пошліна — 22 працэнты, на аналагічныя літоўскія — нулявая. Яшчэ адна недарэчнасць: тавары ў Беларусь і Балгарыю трапляюць праз трэція краіны...

Як людзі справы, прысутныя ведалі ўсе падрабязнасці, якія ўплываюць на развіццё падзей. Пэўныя надзеі яны ўскладаюць на эфектыўную дзейнасць змешанай міжурадавай камісіі, створанай у 1996 годзе, але якая пакуль сябе ніяк не праявіла. Гэтыя спадзяванні маюць пад сабой глебу, бо нядаўна сустаршынёй яе з беларускага боку прызначаны намеснік міністра замежных спраў, нядаўні пасол Беларусі ў Балгарыі Аляксандр Герасіменка, які таксама выказаў свае меркаванні.

Зацікаўленасць балгарскага боку праявілася ў канкрэтных заявах гандлёвага прадстаўніка Балгарыі Векіла Ванава, прапановах кіраўніка Федэрацыі дружбы з народамі СНД Захары Захарыева. Апошні нагадаў, што Балгарыя стала першай краінай, дзе прайшлі Дні суверэннай Рэспублікі Беларусь.

Удзельнікі сустрэчы змаглі не толькі абмяняцца меркаваннямі, удакладніць планы, але і пабываці на шэрагу машынабудаўнічых прадпрыемстваў. Выказаўшы сваю зацікаўленасць у выніковым супрацоўніцтве, мэр Бургаса Йоан Кастадзінаў запрасіў правесці наступную сустрэчу ў гэтым горадзе.



*Удзельнікі сустрэчы. Другі злева мэр Бургаса І. КАСТАДЗІНАЎ.*

**Ніна ЦІМАШОК.**
Фота **Яўгена КАЗЮЛІ.**

## ЮБІЛЕІ

Пачатак на 1-й стар.

# РАДЗІМА АДДЗЯЧВАЕ ЛЮБОЎЮ

вучоба ў Кіеўскім дзяржаўным універсітэце імя Тараса Шаўчэнкі, дзе яго заўважае і апякуе славуты акадэмік Бялецкі. А ўсё ж, мабыць, асноўнае — талент, Божая пазнака, паводле якой такія людзі, як Уладзімір Караткевіч, нараджаюцца мо раз на стагоддзе і якраз тады, калі без іх народу нельга абысціся. Уклад яго ў развіццё духоўных асноваў выяўлення нацыі надзвычай шматгранны, і асэнсаванне гэтай унікальнай з'явы ў поўным аб'ёме яшчэ наперадзе.

Сёлета Беларусь адзначае 70-я ўгодкі ад нараджэння свайго славутага сына. Адзначае шырока, можна сказаць, усенародна. Тут і Мінск, дзе прайшлі гады творчай сталасці, і Масква, дзе ён вучыўся на сцэнарных і літаратурных курсах, і Віцебск, які падтрымаў свайго земляка, увасобіўшы на сцэне Дзяржаўнага тэатра імя Якуба Коласа п'есы "Кастусь Каліноўскі" і "Званы Віцебска", і, безумоўна, родная Орша.

У Віцебску адбыліся розныя мерапрыемствы, асноўнае з якіх — урачыстая вечарына ў згаданым вышэй тэатры. Пра свайго сябра шчырае слова сказалі як пісьменнікі з Мінска, так і віцябляне. Потым быў прагляд спектакля паводле рамана Уладзіміра Караткевіча "Дзікае паляванне караля Стаха", пастаўленага Гомельскім абласным драматычным тэатрам. Родная ж Орша да юбілею памяць свайго сына ўшанавала адкрыццём мемарыяльнага музея Караткевіча.

Уладзімір Караткевіч быў прасякнуты палымянай любоўю да Бацькаўшчыны, і ўдзячная Беларусь адплачвае яму тым жа — шчырай і гарачай любоўю.

**Яўген ЛЕЦКА.**

МЕРКАВАННЕ

# ІНТЭРНЭТМАНІЯ НАС МІНУЛА. АЛЕ Ў ГЭТЫМ І НАША ПРАБЛЕМА...

***12—14 снежня ў сталічным выставачным павільёне "Белэкспа" адбудзецца другі беларускі "Інтэрнэт-Форум "by-2000". Арганізатарам яго выступае Інстытут прыватызацыі і менеджменту Рэспублікі Беларусь, а ініцыятарам — нацыянальны выставачны цэнтр "Белэкспа".***

Тое, што ўвесь свет даўно і паспяхова выкарыстоўвае тэхналогіі Інтэрнэта, ні для кога не сакрэт. І ўсе тут, як кажуць, задаволены: і вытворцы, і спажыўцы.

Да 2003 года агульны аб'ём Інтэрнэт-паслуг, напрыклад, у Расіі складзе каля 350 мільёнаў долараў ЗША. Сусветныя ж лічбы наогул уражваюць: па даных кампаніі ActivMedia, да 2001 года веб-сайты ў карпаратыўным сектары прынясуць 134 мільярды долараў прыбытку. А ўжо да канца бягучага года фірмы, якія вядуць свой бізнес у он- і офф-лайнах, атрымаюць з Сеткі прыбыткі — 25 працэнтаў. У наступным жа годзе лічба вырасце да 34 працэнтаў, а ў 2002-м — да 50-ці. Адным словам, камерсанты, якія ажыццяўляюць прамы продаж сваіх тавараў і паслуг праз веб-сайты, маюць большыя прыбыткі, чым тыя, хто імі не карыстаецца.

Для беларусаў тут, як кажуць, пакуль цёмны лес. Па даных Мінсувязі краіны, агульная колькасць карыстальнікаў айчыннага Інтэрнэта складае каля 35 тысяч чалавек. Калі ж улічваць той факт, што палова з іх наведваюць Сетку не дзеля бізнесу, а для забавы, то гэтая лічба яшчэ меншая. Што ўжо казаць пра памеры аўдыторыі, якая рэальна здзяйсняе пакупкі ў Інтэрнэт-магазінах? Такая сітуацыя, зразумела ж, не залежыць ад тэхналагічнага ўзроўню нашых камунікатыўных сістэм, а з'яўляецца прамым вынікам эканамічнага развіцця Беларусі: праблемы ў айчынным электронным бізнесе абумоўліваюцца не столькі тэхналагічнымі ці юрыдычнымі прычынамі, колькі вельмі нізкай плацежаздольнасцю насельніцтва краіны — нашай з вамі беднасцю.

Аднак, на думку гендырэктара Інтэрнэт-Форуму Івана Пятровіча, нават пры цяжкім эканамічным становішчы на Беларусі мерапрыемства дазволіць яго ўдзельнікам набыць дадатковыя магчымасці ў бізнесе. На Форуме-2000 будзе прадстаўлена унікальная распрацоўка — Нацыянальная Бізнес-Сетка, якая набудзе выгляд часткі грандыёзнага праекта, што ўжо здзяйсняецца ў краінах Еўропы.

**P. S.** *Між іншым, беларускім бізнесменам на заметку: Біл Гейтс аднойчы заўважыў, што кампаніі і фірмы, якія не будуць прадстаўлены ў Інтэрнэце ў новым тысячагоддзі, на рынку проста загінуць, бо, дзякуючы Сетцы, роля спажыўца з кожнай хвілінай неверагодна ўзрастае...*

**Алесь МЯСНІКОЎ.**

ФЕСТЫВАЛІ

# «ЛІСТАПАД»...

— Пачатак на 1-й стар. —

які не падтрымлівае ні адзін з бакоў. Галоўнае ж тое, што атрымалася.

І вось уражанні... Напружанасць, якая ўзнікае з першых эпізодаў, не праходзіць да самага канца фільма. Адразу разумееш, што аператарская работа на вышэйшым узроўні: прырода, людзі выразна зняты, з нейкіх незвычайных кропак і з вялікім пачуццём. Прыцягваюць вобразы трох галоўных персанажаў — байцоў, за плячыма якіх цяжар трох гадоў вайны. Якія твары!

У час сеанса палова гледачоў была моладзь, і яна выставіла гэтаму фільму самы высокі бал. (Дарэчы, фільмы ацэньваліся гледачамі ў дзесяцібальнай сістэме). У фільме ёць сапраўдныя героі, якім уласцівыя высокая адказнасць і патрыятызм. Вобраз капітана Алёхіна, створаны Яўгенам Міронавым, на мой погляд, самая выразная, тонкая і ўдалая мужчынская роля на кінафестывалі. Наогул, усе артысты, што іграюць у карціне, былі вельмі дакладнымі, як кажуць, "ужыліся ў вобраз" — і маладзейшыя Уладзіслаў Галкін, Юрый Калакольнікаў, і болей сталыя і папулярныя — Віктар Паўлаў, Аляксей Пятрэнка, якія стварылі, хоць і эпізадычныя, але цікавыя вобразы.

Ёсць, канешне, і нейкія прэтэнзіі да аўтараў фільма. Але, як казалі на прэс-канферэнцыі яго стваральнікі, магчыма, некаторыя эпізоды яшчэ будуць скарачацца. Праца над фільмам працягваецца.

Дарэчы, пасля гэтай карціны і акцёраў, і аператара Уладзіміра Спорышкава наперабой сталі запрашаць у новыя кінапраекты, што сведчыць пра высокую ацэнку іх майстэрства.

Наогул, фільмы, якія ўдалося паглядзець на фестывалі, поўнасцю пацвердзілі словы прэзідэнта "Лістапада" Расціслава Янкоўскага. Яшчэ на адкрыцці ён казаў, што на фестывалі прадстаўлены фільмы вельмі высокага ўзроўню, у іх няма пошласці, а ёсць тое, што спрадвеку характэрна для славянскага характару — пошук маральнай апоры, сэнсу жыцця, здольнасць да самаахвярнасці, сумленнасці.

І сапраўды, усе конкурсныя фільмы захопліваюць незвычайнымі жыццёвымі абставінамі, прыцягальнымі вобразамі. Сярод найболей запамінальных работа Аляксея Учыцеля "Дзённік яго жонкі" — пра апошняе каханне вялікага рускага пісьменніка, лаўрэата Нобелеўскай прэміі Івана Буніна. Ролю пісьменніка цікава трактуе непрафесійны акцёр Андрэй Смірноў. На думку многіх кінакрытыкаў, ён таксама прэтэндаваў на прыз за лепшае выкананне мужчынскай ролі.

Нельга не адзначыць і фільм "Святы і грэшны" (рэжысёр Іван Солаваў), які, хаця і назвалі камедыяй, хутчэй трэба аднесці да жанру прытчы. У галоўнай ролі зняўся вядомы беларускі акцёр Уладзімір Гасцюхін.

Сучаснае жыццё для многіх людзей стала цяжкім выпрабаваннем: не ўсе змаглі стаць прадпрымальнікамі, не ўсе навучыліся лаўчыць, шукаць выгады і апынуліся ў цяжкім стане. Але, нягледзячы на гэта, не страцілі лепшых рысаў — самаахвярнасці, вернасці каханню, прынцыпам. Вельмі светлы фільм "Зорачка мая ненаглядная" (рэжысёр Сяргей Мікаэлян). У ім прыгожая дзяўчына засталася вернай свайму каханаму, які вярнуўся з чэчэнскай вайны без абедзвюх ног. Шмат пытанняў узнікае міжволі ў гледачоў і галоўнае з іх: як атрымалася, што рускія хлопцы гінуць у Чэчні? Мая знаёмая, у якой бацька таксама вярнуўся з вайны без абедзвюх ног, але ў сям'і, нягледзячы на цяжкасці, было ўзаемаразуменне, любоў, шчырасць, павага адзін да аднаго, не магла саўладаць з пачуццямі, якія нахлынулі на яе, пры ўспаміне пра сваіх ужо памерлых бацькоў...

Паколькі на фестывалі прысуджаюцца тры прызы — сімпатыі гледачоў, за лепшую мужчынскую і жаночую ролі, — немагчыма не адзначыць, што самай запамінальнай, на мой погляд, стаў вобраз немаладой жанчыны ў расійскім фільме "Месяцам быў поўны сад" (рэжысёр Віталь Мельнікаў) у выкананні Зінаіды Шарко. Ужо прайшло некалькі дзён, як паглядзела фільм, а пачуццё вялікай сімпатыі, прыязнасці да гераіні не праходзіць. Гэтая



стужка — на адвечную тэму кахання. Сталая жанчына выпадкова сустракае сваё "першае каханне". У ваенным дзяцінстве яны жылі ў адным дзіцячым доме, дзе да іх і прыйшло першае пачуццё, а потым разлука. Жыццё амаль пражыта, і вось сустрэча. Вобраз інтэлігентнай, тонкай, шчырай жанчыны, створаны З. Шарко, — сапраўдная ўдача актрысы.

І вось канчатковыя вынікі фестывалю. Як аказалася, мае сімпатыі супалі з меркаваннем прафесійнага журы і гледачоў. Прызы ўручаны. Іх дзевяць. Але пра гэта пазней. Безумоўна адно: такія фестывалі патрэбны і стваральнікам, і гледачам.

**Таццяна КУВАРЫНА.**

*НА ЗДЫМКАХ: М. БУРЛЯЕЎ уручае дырэктару фестывалю "Лістапад" Валянціне СЦЯПАНАВАЙ узнагароду Гільдыі кінематаграфістаў Расіі за вялікі ўклад у фестывалі "Залаты Віцязь" і "Лістапад"; госці фестывалю: акцёр Валянцін БУКІН і Галіна БАКАШЭЎСКАЯ, выканаўцы ролей у фільме "Зорачка мая ненаглядная".*

**Фота Сяргея ДЗЕНІСЕНКІ.**



ПРЭЗЕНТАЦЫЯ

***Беларускі фонд культуры добра вядомы сваёй разнастайнай дзейнасцю ў самых розных галінах нацыянальнай культуры і мастацтва. Сярод іншага шмат намаганняў надаецца вельмі нялёгкай сёння выдавецкай справе. Пра апошнюю маштабную акцыю ў гэтым накірунку расказвае старшыня фонду Уладзімір ГІЛЕП.***

# ВЯРТАННЕ СЛАВУТЫХ ІМЁН БАЦЬКАЎШЧЫНЫ

— Калі я прыйшоў у фонд культуры, тут ужо была добра напрацаваная праграма "Вяртанне каштоўнасцей". І калі мне давялося пісаць уступ да чарговай кніжкі гэтай серыі, падумаў: як шмат губляе грамадства, не вяртаючы імёны. Мы добра разумеем, што зараз вярнуць каштоўнасці з-за мяжы проста немагчыма. Як немагчыма выцягнуць з Луўра свае гістарычныя рэліквіі егіпцянам ці індусам, так немагчыма забраць і нашы каштоўнасці, скажам, з Эрмітажа ці слуцкія паясы з Гістарычнага музея. Хаця многа абяцана, але пакуль нічога не вернута, і мала шанцаў, што вернецца.

Але тэма вяртання каштоўнасцей працягваецца. Сёлета ўжо выходзіць сёмая кніжка "Вяртання", і гэта выдатна, бо мы нарэшце атрымалі цікавыя весткі: дзе і што беларускае знаходзіцца ў свеце. Такая інфармацыя надзвычай важная для гісторыкаў, іншых навукоўцаў.

Для мяне тэма вяртання на радзіму імёнаў стала сапраўдным "пункцікам". Тым больш, што на Беларусі ў гэтай галіне працуе шмат цікавых даследчыкаў. Раней выходзілі нават невялічкія брашуркі, нешта накшталт "Знакамітых сыноў Айчыны"... Але, на вялікі жаль, апошнім часам такая работа прыпынілася. І вось зараз, дзякуючы Міністэрству культуры, — яно прафінансавала працу часовага творчага калектыву, створанага пры Беларускім фондзе культуры, — на працягу года мы падрыхтавалі матэрыялы для першага тома кнігі "Славутыя імёны Бацькаўшчыны".

Складзены спіс, прычым я лічу яго сціслым, з трохсот імёнаў. У першы выпуск трапілі 34 з іх. Так што можна падлічыць: гэта 10 тамоў.

На кім жа засяродзілі ўвагу ў першую чаргу? Найперш сказалі пра тых, хто нарадзіўся на Беларусі, набыў славутасць недзе далёка за межамі радзімы, але застаўся, на вялікі жаль, малавядомым беларусам. Такіх прыкладаў шмат. Можна згадаць таго ж Ігната Дамейку — нацыянальнага героя Чылі, Напалеона Орду... Нават у нашай Беларускай энцыклапедыі пра некаторых — толькі 3—4 радкі. Але ж мы павінны ведаць больш пра такія постаці, бо яны гонар нацыі.

Канешне ж, пачалі з Ефрасінні Полацкай. Гэта на Беларусі знакавая фігура. А далей ужо пайшлі іншыя імёны перыяду IX—XIX стагоддзяў. Зараз работа працягваецца. Заканчваецца падрыхтоўка 2-га тома (ён выйдзе наступным годам), і хутка распачнуцца напрацоўкі на 3-ці. Такім чынам, я спадзяюся і хачу, каб ведалі пра гэта, у бібліятэках нашай краіны хутка з'явяцца кнігі пад назвай "Славутыя імёны Бацькаўшчыны".

Галоўны рэдактар выдання — Анатоль Грыцкевіч, сярод аўтараў — Адам Мальдзіс, Язэп Янушкевіч, Вольга Гапоненка і іншыя, усяго каля 20 чалавек — усе высокакваліфікаваныя спецыялісты.

Зразумела, ніякіх грошай зарабіць на падобным выданні немагчыма. Калі мы выпусцілі, лічу, шыкоўнага "Пана Тадэвуша" Міцкевіча на трох мовах, то галоўным для нас было тое, што кніга пабачыла свет і стала лепшай у 1998-м годзе. Летась прызнана лепшай і кніга, падрыхтаваная да 200-годдзя Пушкіна.

— *Які тыраж новага зборніка "Славутыя імёны Бацькаўшчыны"?*

— 2 000 экземпляраў.

— *А якое выдавецтва яго выпускае?*

— Гэтае выдавецтва так і называецца — Беларускі фонд культуры.

**Галіна УЛІЦЁНАК.**

ДАБРАЧЫННАСЦЬ

# «УСМЕШКА» СХАВАЛА АД НЯГОД

***Непаўторная атмасфера радасці, шчасця і веры ў сваю будучыню панавала ў той дзень у Палацы культуры і спорту чыгуначнікаў. Дзяцей з усёй рэспублікі, якія пакутуюць на анкагематалагічныя захворванні, сабрала на традыцыйнае свята "Усмешка" грамадскае аб'яднанне "Дзеці ў бядзе", якое сёлета адзначае сваё 10-годдзе. Было шмат падарункаў, прыемных сюрпрызаў, гульняў, конкурсаў і вялікі канцэрт.***

Здавалася, што дзеці забылі пра ўсе нягоды, а іх радасныя твары сталі самым дарагім падарункам бацькам, медыкам і ўсім добрым людзям, якія дапамагаюць ім не заставацца сам-насам з бядой.

У свяце прынялі ўдзел урачы Рэспубліканскага анкагематалагічнага цэнтра. Каля чатырох тысяч хлопчыкаў і дзяўчынак вярнуліся да нармальнага жыцця дзякуючы іх клопату і лячэнню. Былыя пацыенты цэнтра ўжо стварылі свае сем'і, і ў іх растуць здаровыя дзеці. Не з пустымі рукамі прыехалі і госці з Германіі, Італіі і Вялікабрытаніі. Яны прывезлі мноства падарункаў і самае галоўнае — рэдкія і дарагія медыкаменты. Штогод замежныя сябры прымаюць на аздараўленне больш за 1 000 беларускіх дзяцей. З нашага боку арганізаваць адпачынак дапамагаюць Міністэрствы аховы здароўя, адукацыі і сацыяльнай абароны.

Грамадскае аб'яднанне "Беларускае рэспубліканскае таварыства "Дзеці ў бядзе" было створана па ініцыятыве бацькоў, чые дзеці пакутуюць на анкалагічныя і гематалагічныя захворванні. За паслячарнобыльскія гады ў Беларусі адзначаны небывалы рост такіх захворванняў, і асноўная частка пакутуючых — дзеці. На сённяшні дзень сярод членаў таварыства ўжо 652 дзіцяці, і, на вялікі жаль, іх колькасць пастаянна павялічваецца. Старшыня грамадскага аб'яднання "Дзеці ў бядзе" Яўген Украінцаў адзначыў у сваім выступленні, што за дзесяць гадоў свайго існавання аб'яднанне ўнесла канкрэтны ўклад у аздараўленне дзяцей, уладкаванне іх далейшага жыцця. У актыве — стварэнне дзіцячага сада для малых, хворых на рак, пры ўдзеле нямецкіх партнёраў пабудаваны Цэнтр рэабілітацыі для хворых дзяцей з бацькамі, зараз завяршаецца будаўніцтва корпуса рэабілітацыі на базе санаторыя "Аксакаўшчына".

**Марыя АГАФОНАВА.**

**АСОБА**

# ІРАНІЧНЫ ДРАМАТУРГ

## Андрэй МАКАЁНАК



Тэатральная і літаратурная грамадскасць Беларусі адзначыла 80-годдзе з дня нараджэння вядомага драматурга, народнага пісьменніка Беларусі Андрэя МАКАЁНКА.

Андрэй Макаёнак — аўтар шырока вядомых п'ес "Лявоніха на арбіце", "Таблетку пад язык", "Зацюканы апостал", "Трыбунал". Па сцэнарыях драматурга зняты фільмы "Рагаты басціён", "Кандрат Крапіва".

На радзіме драматурга, у вёсцы Журавічы Рагачоўскага раёна, пастаўлены бюст знакамітага земляка і праведзена ўрачыстая літаратурна-мастацкая вечарына. У ёй прынялі ўдзел пісьменнікі, акцёры Купалаўскага тэатра, на сцэне якога былі пастаўлены практычна ўсе п'есы Андрэя Макаёнка.







НА ЗДЫМКАХ: Андрэй Макаёнак; Аляксей ДУДАРАЎ каля бюста Андрэя Макаёнка; дом Андрэя Макаёнка ў Журавічах.

**НАТАТКІ З НАГОДЫ**

Сітуацыя ў "Беларускай Смаленшчыне", якую аналізуе Анатоль Корсак, з'явілася вынікам двух папярэдніх стагоддзяў існавання гэтага краю ў складзе імперыі і ўжо тады, у паслярэвалюцыйны час, была для беларусаў трагічнай, хоць, зусім верагодна, імі такой і не ўсведамлялася, бо, уласна кажучы, усведамляць яе сутнасць ужо амаль і не было каму: гарады былі суцэльна русіфікаваны, а вёска, застаючыся беларускамоўнай, у плане нацыянальнай свядомасці няўцямнай.

Ці трэба даводзіць, як нялёгка было такіх людзей вярнуць да саміх сябе, абудзіць у іх пачуццё нацыянальнай годнасці, жаданне сцвердзіць сябе ў розных жыццёвых абсягах як своеасаблівы і адметны этнас.

## ЗА ДАЛЯГЛЯДАМ ЗАБЫЦЦЯ

Такое "пераўтварэнне" не магло адбыцца шляхам дэкрэтаў і распараджэнняў, патрэбна была планамерная культурна-асветніцкая праца, забяспечаная кваліфікаванымі кадрамі. Патрэбны былі гарантыі, што ўсё гэта робіцца не дзеля галачкі, не дзеля часовай кампаніі, а назаўсёды і павінна людзям прынесці не толькі нейкія, у іх разуменні, абстрактныя маральныя вартасці, але і непасрэдныя матэрыяльныя выгады. Бо так звычайны "масавы" чалавек зладжаны, ён думае і разважае рэальна, практычна: а што з усяго гэтага будзе, каму яно патрэбна і што "я" буду мець асабіста? Менавіта на гэтым, дакладней, без уліку гэтага спачатку спатыкнулася (памятаюцца папрокі "простым" людзям за тое, што ім не мова, а кілбаса патрэбна) і па сутнасці захлынулася наша апошняе Адраджэнне. Бо супрацьпастаўляць "мову" і "кілбасу" — гэта значыць, духоўнае і матэрыяльнае, маглі толькі ці яўныя правакатары, ці звычайныя паўгалоўкі ад інтэлігенцыі, нягдатныя займацца рэальнай палітыкай і дасягаць рэальных вынікаў.

Але вернемся да паслярэвалюцыйнай Смаленшчыны. Усё, што тут рабілася пад кіраўніцтвам Камуністычнай партыі ў нацыянальнай палітыцы, было загадзя накіравана на крах. Гэта была толькі прапагандысцкая кампанія, найперш прызначаная для ачмурэння заходняй грамадскасці. А таму ўся гэтая так званая нацыянальная палітыка нічога, апрача бедаў, слёз і крыві, народу даць не магла. Любому народу, у тым ліку і рускаму. Што ж датычыць беларускага, то пасля таго як Смаленшчыну адарвалі ад Беларусі, значную частку яе насельніцтва з крайне нізкай, цягам стагоддзяў знішчанай нацыянальнай свядомасцю пазбавілі дзяржаўнай апекі і падтрымкі, а, значыць, і адзінай гарантыі.

Дысертацыя заканчваецца крывавым 1937 годам. Пасля яго ўжо даследаваць нічога не засталося, бо амаль усё іншанацыянальнае насельніцтва Смаленшчыны было часткова выслана ў далёкі сібірскі край, часткова растасавана па турмах (ужо не нацыянальных, а спрэс інтэрнацыянальных), часткова знішчана ў розных ГУЛагах...

* * *

Калісь, добра не памятаю, ці ў сваю студэнцкую, ці аспіранцкую бытнасць, я зрабіў кароткую вандроўку на Смаленшчыну, каб пераканацца, што ад беларускасці ў гэтым краі засталося. І сапраўды ўпэўніўся, што вясковы люд там размаўляў на такой жа гаворцы, як і ў суседніх Віцебшчыне і Магілёўшчыне. Праўда, як я іх ні пераконваў, беларусамі тыя людзі сябе не прызнавалі. "Мы — смаляне", — чуў я ад іх і ад хлопцаў-хімікаў са смаленскай глыбінкі, якія паступілі ў наш Белдзяржуніверсітэт і з якімі я жыў у адным інтэрнаце. Мяркую, вопыт і ўрокі стагоддзяў існавання ў Расійскай імперыі, асабліва дзесяцігоддзі камуністычнай "нацыянальнай" палітыкі, не прайшлі для людзей бясследна: страх прызнавацца ў сваёй этнічнай прыналежнасці запаў вельмі глыбока і дзейнічае ўжо не так на ўзроўні свядомасці, як падсвядомасці, бо трывала засеў у генах.

А ў мяне на кніжнай паліцы пад рукой, ці, як у нас казалі, на пашэве, стаіць дбайна сабраны і складзены бясспрэчным аўтарытэтам у лінгвістыцы, рускім вучоным прафесарам П. Растаргуевым "Словарь говоров Западной Брянщины". Гэтую дарагую мне кнігу я разгортваю кожны раз, калі хачу наталіць і спатоліць сябе натуральным гучаннем нашай роднай крывіцка-беларускай гаворкі...

**Яўген ЛЕЦКА.**

Заканчэнне.
Пачатак ў №№ 47, 48.

**ПАКАЛЕННЕ-2000**

# «НАМАЛЮЕМ ВЕРШАМ КРЫЛЫ»

**Пад такой назваю адбыўся канцэрт юных Моцартаў у Мінску ў Малой зале Палаца Рэспублікі. Арганізавалі гэтае музычнае свята рэдакцыя газеты "Раніца", Міжнароднае грамадскае аб'яднанне "Клуб "НЭССІ", Міжнароднае грамадскае аб'яднанне "Свет вачыма дзяцей" пры дапамозе і падтрымцы спонсараў: Міністэрства культуры, Саюза мастакоў Беларусі, турыстычнай фірмы "Алатан-Тур", балгарскага турагенцтва "Солвекс", фірмы "Zepter", ТАА "Арыён", ГУМа, "Інвацэнтра".**

Музыка — гэта цуд. А ствараць яе — дар Божы. І такім дарам надзелены віноўнікі ўрачыстасці — юныя (11—16 гадоў) кампазітары, якія "зляцеліся" на канцэрт з розных гарадоў Беларусі: Дзінара Мазітава з Ліды, Даша Верхаводка з Барысава, Насця Беняш са Слуцка, Вольга Воінская з Маладзечна і мінчане Яўген Гальцоў, Каця Дудзіч, Лена Турчынская, Аркадзь Чубрык, Цімур Шчарбакоў, Каця Кішкурна, Лена Анісімава. Усе яны — удзельнікі разнастайных конкурсаў. У музычнай скарбонцы кожнага па 100 і болей створаных мелодый, некаторымі з іх гэтыя таленавітыя хлопцы і дзяўчаты падзяліліся з гледачамі і слухачамі.

Адкрыў канцэрт заслужаны артыст Беларусі Ігар Лучанок. Ён пажадаў юным кампазітарам поспехаў, радасці і шчасця і, самае галоўнае, "пранесці ўзятую эстафету праз усё жыццё". А потым Алена Турчынская спела гімн свята "Намалюем вершам крылы", мелодыю да якога стварыла сама. Адбылося гэта нечакана, калі была з бацькамі на дачы, пад птушыны спеў, пад шум дажджу і ветру. Пасля дзяўчынкі выступалі іншыя юныя дараванні. Яны спявалі песні ў асноўным на словы Івана Цітаўца. Дзеці дарылі ўсім прысутным радасць і выглядалі такімі прыгожымі, шчаслівымі, усхваляванымі.

"Я не магу адказаць, як у мяне ўзнікае мелодыя, але гэта заўсёды вялікая радасць", — падзялілася Даша Верхаводка. "А да мяне, — казаў Цімур Шчарбакоў, — музыка часам прыходзіць у сне". У Вольгі Воінскай музыка кожнай песні залежыць ад верша. Сумны верш — і песня атрымліваецца лірычнай, сумнай. Калі ён вясёлы — адпаведная і мелодыя. Дзінара Мазітава больш любіць пісаць музыку без слоў. А Каця Кішкурна лічыць, што ад высокай музыкі прыгажэе жыццё, і яна імкнецца рабіць усё магчымае, каб гэта было менавіта так.

Усе юныя творцы падаюць вялікія надзеі, растуць цудоўнай зменай нашым масцітым кампазітарам. У іх ёсць шанц стаць сапраўднымі свяцiламі ў музыцы і зрабіць будучыню больш прыгожай.

А віншавалі юных удзельнікаў канцэрта калектывы дзіцячых музычных школ горада Мінска, заслужаныя спевакі, народныя беларускія ансамблі, паэты Уладзімір Скарынкін, Іван Цітавец. Спонсары ўручылі юным творцам каштоўныя падарункі.

**Святлана КАРПУЧОК.**



## "ІРЫНІНСКАЯ" ГІМНАЗІЯ

Апошняя гомельская княгіня Ірына Паскевіч з пражытых ёю 90 гадоў большую частку правяла ў Гомелі, надавала шмат увагі развіццю горада і паляпшэнню жыцця гараджан. Асабліва многа зрабіла яна для культурнага развіцця. У горадзе былі створаны "Таварыства дапамогі бедным навучэнцам", адкрыты музычны салон, прыпаднесены ў падарунак каменны дом для "Таварыства дапамогі бедным", утрымліваўся дом для састарэлых жанчын і прытулак для дзяўчынак-сірот.

У Гомелі зараз адкрыта гімназія, якая носіць імя "Ірынінская". Гімназісты збіраюць матэрыялы пра жыццё і дзейнасць Ірыны Паскевіч, плануюць стварыць невялікі музей, прысвечаны яе дзейнасці.

НА ЗДЫМКАХ: загадчыца кабінета памяці Ірыны Паскевіч Святлана ГРОМАВА з гімназістамі апрацоўваюць матэрыялы для будучага музея; партрэт Ірыны ПАСКЕВіЧ (рэпрадукцыя карціны).

**Сяргей ХАЛАДЗІЛІН.**



СПАДЧЫНА

# РУБОН — АЛЬМАНАХ, ЯКІ ЎВАСКРЭС ПРАЗ 100 ГАДОЎ

***Альманах "Rubon" (Рубон — старажытная назва ракі Заходняя Дзвіна) выдаваўся на польскай мове ў Вільні ў 1842—1849 гадах. Выдаўцом быў К. Буйніцкі. Выйшла 10 тамоў (нумароў) выдання, а распаўсюджваўся ён пераважна на Віцебшчыне і меў 177 падпісчыкаў. На старонках альманаха друкаваліся матэрыялы па беларускай этнаграфіі, фальклору і гісторыі Беларусі, праводзілася думка пра самабытнасць культуры беларусаў — асвятлялася культурнае жыццё беларускага Наддзвіння.***

Вакол альманаха групаваліся значныя літаратурныя сілы: Аляксандр Гроза, Вінцэнт Рэўт-Газдава, Тадэвуш Лада-Заблоцкі, Ян Чарот, Клеменс і Юльян Гжымайлоўскія, Міхал Борх, Геранім Марцінкевіч, Адам Плятэр, Ігнат Храпавіцкі і іншыя.

Вызначальным для будучыні "Рубона" з'явілася тое, што першы нумар выдання адкрыўся менавіта вершам "Дзвіна" Ігната Храпавіцкага, ураджэнца Верхнядзвінскага раёна. Ігнат Храпавіцкі — прыкметная постаць у грамадска-навуковым і літаратурна-журналісцкім руху на Беларусі ў сярэдзіне XIX стагоддзя. Нарадзіўся ён у маёнтку Кахановічы. Хоць бацька яго з'яўляўся найбуйнейшым у павеце землеўладальнікам, "камергерам двара яго імператарскай вялікасці", Ігнат быў перакананым антыпрыгоннікам. Больш таго, у 1850 годзе ён распрацаваў праект скасавання паншчыны, што выклікала перапалох у царскай адміністрацыі, якая зрабіла ўсё, каб праект не набыў сілу закона.

Дэмакратызм Храпавіцкага, яго спагадлівае стаўленне да простага люду, да вечных працаўнікоў сялян-беларусаў знайшлі месца на старонках альманаха "Rubon". Гады супрацоўніцтва Храпавіцкага з выданнем былі найбольш плённымі ў яго жыцці: ён друкаваў вершы, збіраў і даследаваў беларускі фальклор, назіраў за асаблівасцямі беларускай мовы. У 1845 годзе ў 5 томе альманаха была апублікавана навуковая праца Ігната Храпавіцкага "Погляд на паэзію беларускага народа". Сучаснік аўтара Рамуальд Друцкі-Падбярэзскі ў артыкуле "Беларусь і Ян Баршчэўскі" (Пецярбург, 1844) пісаў пра даследаванні І. Храпавіцкага так: "Гэта першы самастойны філасофскі погляд на паэзію беларускага народа, першая адзнака набліжэння нацыі да самапазнання сябе і сутнасці сваёй паэзіі..."

Храпавіцкі глыбока адчуваў спецыфіку беларускага фальклору, першы звярнуў увагу на яго гістарычную вартасць: "Не трэба, аднак, думаць, што беларуская (народная) паэзія пазбаўлена ўсялякай гістарычнай вартасці,.. аценіце таямніцу ўнутранага жыцця народа, бо выразна адлюстраваны ў ёй звычаі, дамашні побыт, характар нашага люду..."

Прайшоўшы праз стагоддзі, "Рубон", нібы міфалагічная птушка Фенікс, узняўся з попелу і адрадзіўся менавіта ў той мясціне, дзе калісьці зараджаўся і распаўсюджваўся — у Верхнядзвінску, на радзіме аднаго з ініцыятараў і актыўных аўтараў "Рубона" мінулага стагоддзя Ігната Храпавіцкага.

Сёлета ў лютым "Rubon" атрымаў другое жыццё. Заснавальнік выдання — Верхнядзвінская раённая рада грамадскай арганізацыі Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны. Распаўсюджваецца бясплатна і выходзіць накладам 299 экземпляраў. Праўда, змянілася форма: "Рубон"ператварыўся ў чатырохпалосны бюлетэнь. Але захавалася сутнасць і ідэі, закладзеныя ў падмурак "Рубона" яшчэ яго стваральнікамі. "Не пакідайце ж мовы беларускай!" — з гэтых слоў Францішка Багушэвіча пачынаецца кожны чарговы нумар бюлетэня. А гэта значыць, калектыў рэдакцыі працягвае ідэі сваіх папярэднікаў.

Звяртаючыся да чытачоў, "Рубон" піша: "Верхнядзвіншчына багатая на сапраўдныя скарбы беларушчыны, якая мае глыбокія і моцныя карані, узышоўшыя з крывіцкай даўніны. Гэты край, Падзвінне, размешчаны на самым сутыку розных дзяржаў і народаў, не толькі не страціў сваю беларускасць, але, наадварот, узбагаціўшыся ў прыязных суседскіх стасунках з латгаламі ды рускімі, набыў яскрава выражанае і па-мясцоваму адметнае беларускае аблічча, якое высвечваецца праз жывы фальклор, жыццястойкі менталітэт людзей. Мы хочам адкрыць скарбонку створаных культурных багаццяў".

Хацелася б пажадаць "Рубону" плёну ў творчасці і выказаць спадзяванне, што ён паспяхова пяройдзе ў яшчэ адно, ужо XXI стагоддзе!

**Вераніка ПАНІЗЬНІК.**

ЖЫЦЦЁВЫЯ СЮЖЭТЫ



## РАМОНКІ Ў ЛІСТАПАДЗЕ

● **Лілія ЛАПШЫНА,** БелТА.

Старажыл хутара Рылаўцы Лідскага раёна Марыя Шэшка не прыгадае, каб у лістападзе расквітнела рамонкамі і валошкамі поле, што непадалёку ад яе дома. Кветак столькі, што ўсё навокал стала бела-блакітным. На Гродзеншчыне яшчэ і зараз цёпла, і поле па-ранейшаму ў кветках.

НА ЗДЫМКУ: Марыя ШЭШКА на рамонкавым полі ў лістападзе.

# ПОЛАЦКІ ЛЕТАПІС ОРДЭНА ЕЗУІТАЎ

● **Юрый ЛАБЫНЦАЎ,** *Масква.*

У 1998 годзе споўнілася роўна паўтысячагоддзя з дня даравання "месту Полацкаму" ў 1498 годзе "прывілея на права Маідэборскае [г. зн. магдэбургскае. — **Ю. Л.**] і іншыя вольнасці" — адной з найважнейшых падзей у гісторыі гэтага старажытнага беларускага горада, які ўпершыню ўпамінаўся ў летапісных крыніцах пад 862 годам.

Тады ж, у 1498 годзе, адбылася яшчэ адна, не вельмі ў тую пару прыкметная падзея: у прадмесці горада, у Запалоцці, о. бернардзінцаў быў заснаваны манастыр і збудаваны каталіцкі касцёл, які стаў першай каталіцкай місіяй у вялікім Полацкім краі. Да той пары кантакты палачан з каталіцкім светам былі эпізадычнымі. Яны падтрымліваліся праз зносіны з прадстаўнікамі нямецкага Ордэна і нямецкімі купцамі, магчыма нават маючымі на тэрыторыі Полацка нейкія культавыя будынкі для сваіх уласных патрэб, аб чым вельмі глуха паведамляюць некаторыя крыніцы. Зрэшты, нельга перабольшваць значэнне гэтых паведамленняў.

Першая каталіцкая місія ў Полацку звязана з дзейнасцю польскіх манахаў-бернардзінцаў, якія атабарыліся тут у 1490-я гады і спецыяльна рыхтаваліся для падобнай дзейнасці. Узначальваў іх вядомы а. Ляон з Ланьцута. Яны апынуліся ў "моры праваслаўя", дзе на вялізнай прасторы не было ні касцёла, ні каталіцкага ксяндза. Спачатку дзейнасць місіі была паспяховай, але да сярэдзіны XVI стагоддзя каталіцкая абшчына ў Полацку амаль спыніла сваё існаванне. Пасля ўзяцця Полацка ў 1563 годзе рускімі войскамі Іван Грозны загадаў спаліць драўляны бернардзінскі манастыр, у якім тады знаходзілася каля дзесяці манахаў, трое з якіх былі забіты па загаду цара і пазней некаторы час шанаваліся палачанамі-католікамі ў якасці пакутнікаў. Так скончылася гісторыя першай каталіцкай місіі ў Полацку.

Толькі праз паўтара дзесятка гадоў, калі горад перайшоў у рукі Стэфана Баторыя, войскі якога разрабавалі горад і вывезлі з яго ў якасці трафеяў вялікую колькасць царкоўных каштоўнасцей, вырашана было зрабіць новымі каталіцкімі місіянерамі ў Полацку і яго акрузе езуітаў.

З цягам часу на месцы кальвінісцкага сабора і праваслаўных могілак быў пабудаваны езуіцкі калегіум, утварыўся адзін з найбуйнейшых у свеце, а потым на некалькі дзесяцігоддзяў (другая палова XVIII — пачатак XIX стагоддзяў) практычна адзіны цэнтр гэтага ордэна.




Менавіта тут, у калегіуме, 330 гадоў назад езуіты пачалі пісаць яго хроніку, якая стала адначасова і своеасаблівым летапісам горада: "Historia Collegii Polocensis Societatis Iesu". Гэтая аб'ёмная двухтомная рукапісная хроніка захавалася. Яна знаходзіцца ў Кракаўскім архіве о. езуітаў. Тут знаходзіцца таксама і шэраг іншых каштоўных дакументаў, якія належаць да гісторыі Полацка і калегіума, будучай Полацкай езуіцкай акадэміі. Сярод іх першаступенную цікавасць уяўляе вялікі том "Materialy do dziejow Akademii i Kolegium Towarzystwa Jezusowego///", складзены на рубяжы XIX і XX стагоддзяў, ён лёг у аснову вядомай кнігі J. G. "Materialy do dziejow Akademii Polockiej..." (Krakow, 1905), аўтарам якой быў Ян Марэк Гіжыцкі.

"Historia..." пісалася на лацінскай мове некалькімі асобамі, пачынаючы з 1667 года і да першай чвэрці XIX стагоддзя ўключна. Найбольш падрабязныя сведчанні датаваны XVII і XVIII стагоддзямі. Першы том тычыцца часу "ab anno 1667 ad annum 1762" г. зн., з 1667 па 1762 год, але на самай справе пачатковыя падзеі, апісаныя ў ім, адносяцца да XVI стагоддзя, у тым ліку памятнага 1579 года — аблогі і ўзяцця Полацка войскамі Стэфана Баторыя. Другі том хронікі ахоплівае перыяд "ad annum 1817", г. зн. да 1817 года. На самай жа справе ў ім ёсць і больш познія запісы — 1820-х гадоў.



Хроніка выклікае вялікую цікавасць не толькі ў гісторыкаў ордэна езуітаў, езуіцкага калегіума і акадэміі ў Полацку, але і ва ўдумлівага даследчыка жыцця горада і нават лёсаў Беларусі і ўсяго ўсходу Еўропы наогул. Можна не сумнявацца, што яе скрупулёзны аналіз выявіць мноства важных, да гэтай пары невядомых фактаў беларускай і агульнаеўрапейскай гісторыі, што потым стане аргументам на карысць частковай ці нават поўнай публікацыі хронікі ў перакладзе на адну з сучасных моў.

ЛІТЭКСПРЭС-2000



**"Літаратурны экспрэс Еўропа-2000", што фінішаваў сёлета на пачатку восені, сабраў, як вядома, на сваіх колах 100 літаратараў з 43 краін. Узялі ўдзел у мерапрыемстве і трое нашых пісьменнікаў: Вольга Іпатава, Андрэй Федарэнка і Леанід Дранько-Майсюк.**

**Усе пасажыры еўрапейскага ваяжу паабяцалі да канца гэтага года напісаць пра свае ўражанні ад паездкі, з якіх будзе складзены даведнік "Еўропа-2000". Тым, трэба думаць, і тлумачыцца іх "нежаданне" расплёскваць уражанні — расказваць пра літэкспрэс максімальна поўна і дэталёва. Але ж цікава даведацца хоць што-нішто...**

**Празаік Андрэй Федарэнка на старонках газеты ўжо выказаўся. Сёння распытвае паэта Леаніда Дранько-Майсюка Алесь Мяснікоў.**

## Леанід ДРАНЬКО-МАЙСЮК:

# «ЕЎРОПА ЯШЧЭ АДКРЫЕ ДЛЯ СЯБЕ «СЫМОНА-МУЗЫКУ» Якуба КОЛАСА»...

***— Вашы агульныя ўражанні ад паездкі?***

— Ёсць падарожжы празаічныя, ёсць падарожжы паэтычныя. Гэта паездка па сваёй таемнай якасці — з'ява абсалютна паэтычная. Маю на ўвазе паэзію не як вершаваную творчасць, а як букет узаемаразумення. Словам, усе, з кім я меў "літэкспрэсаўскія" адносіны (назаву перш за ўсё шляхетную Жанну Дапкюнас, ажурную Вольгу Іпатаву, далікатную Людмілу Гарбачову, суламітную Інгу-Ліну Ліндквіст і славалюбнага Андрэя Федарэнку), дык вось, усе гэтыя цудоўныя людзі — і вядома, не толькі яны — узбагачалі мяне сваім даверам, падтрымкай і згодай.

Таму падчас вандравання я адмовіўся ад сваёй ранейшай "філасофіі", паводле якое кнігі маюць большую цікавасць, чым людзі. У маім эсэ "Хараство раптоўнасці" ёсць такая развага: "Няўжо я невылечны эгаіст? Няўжо я зусім ваўкаваты маўчун, якому кнігі замяняюць жывых людзей? Што зробіш, калі, сапраўды, я лепей сябе адчуваю ў размове з кнігай, а не з чалавекам. Кнігу можна разгарнуць і загарнуць, узяць з паліцы і, паклаўшы на паліцу, забыцца пра яе зусім. Што ні ўчыніш — кніга не пакрыўдзіцца. Пакрыўдзіцца чалавек. І нават кропелькай сваёй крыўды ён заўсёды абуджае акіян маёй. Акіян, з якога з кожным годам усё цяжэй і цяжэй выплываць..."

Дык вось, гэтыя словы — маё мінулае. Пад уплывам магіі "Літаратурнага экспрэса Еўропа-2000" і арганізатарскага таленту кіраўніка "Экспрэса" Томаса Вольфарта я навучыўся людзей цаніць больш, чым кнігі...

***— Якія літаратурныя плыні сёння ў Еўропе найбольш распаўсюджаны? Кажуць, што паэты Старога свету вырашылі канчаткова адмовіцца не толькі ад рыфмаваных радкоў, але наогул ад гарманічнага вершаванага радка. Ваша меркаванне наконт гэтага?***

— Пытанне настолькі маштабнае, што калі на яго і адказваць па-маштабнаму, то такім парадкам можна нагаварыць на цэлае літаратуразнаўчае даследаванне. Калі ж заставацца ў межах інтэрв'ю, то мушу сказаць: літаратурная Еўропа, як і заўсёды, багатая на свае мілыя ідыёцтвы і высокую класіку. Кажучы мовою нашых сённяшніх сімвалаў, Еўропа мае як сваіх бумбалітаўцаў, так і сваіх Васіля Быкава і Уладзіміра Караткевіча...

Што ж датычыцца рыфмаваных (абсалютна гарманічных) вершаў, то, наколькі мне вядома, прастора іхняга існавання не такая ўжо й звужаная, як часам нам здаецца. Аднак жа праўда й тое, што ёсць катэгорыя еўрапейскіх творцаў, якія да рыфмоўкі (менавіта як да музычнага пераклiку рыфмаў у вершы) ставяцца прадузята: маўляў, гэта вельмі кансерватыўны лад паэтычнага маўлення. Але як і ў нас, на Беларусі, так і ў Еўропе паволі набывае сілу спажыўнае разуменне: энергетыка рыфмаваных радкоў бясконцая, як і бясконцыя іхнія таямніцы.

***— Як славянская літаратура (у прыватнасці, паэзія) успрымаецца ў Еўропе? Чаго Еўропа чакае ад беларусаў? Ці мы ад іх?***

— Адразу ўдакладнім паняцці. Я разумею, што такое славянскія мовы, славянскія народы, славянскія землі. А вось што такое славянская літаратура ў сучасным бытаванні — не зусім разумею. Увогуле ж гэта нейкая сукупнасць, мноства. Як, дарэчы, і еўрапейская літаратура. Але да паняцця "еўрапейская літаратура" мы прызвычаіліся, успрымаем як нешта цэласнае, нават непадзельнае. А гэта тым не менш усё ж сукупнасць, разнастайнасць. Размаітасць нацыянальных літаратур. І ў гэтым шматколерным багацці мае сваё пэўнае месца і беларускае прыгожае пісьменства. Словам, беларускае (школьная ісціна!) — гэта частка еўрапейскага. У нас адна геаграфія і хрысціянская прастора. Калі ж гаварыць пра адрозненні, то яны ў першую чаргу, вядома, моўныя і — што вельмі істотна — узроставыя. Скажам, літаратура Францыі — сталая, а наша літаратура — маладая. Аднак жа гэта зусім не значыць, што маладая літаратура не мае сталых твораў. Калі вялікі свет Еўропы яшчэ не развучыўся ўдумліва чытаць і здатны ўспрымаць мастацкае хараство, то, мяркую, ён яшчэ адкрые для сябе і "Сымона-музыку" Якуба Коласа, і "Млечны шлях" Кузьмы Чорнага...

Я не ведаю, чаго (зразумела, у эстэтычным сэнсе) чакае Еўропа, у прыватнасці, ад нас, беларусаў. Магчыма, й нічога не чакае. Але ведаю, чаго мы чакаем ад Еўропы — цярплівай увагі да нашых шэдэўраў. Разумею, у гэтай маёй выснове шмат рамантызму.

***— З кім з беларусаў замежжа давялося сустрэцца?***

— Гэта асобная, самая запамінальная старонка вандроўкі. Першая такая сустрэча адбылася ў Мадрыдзе. Я пазнаёміўся з Андрэем Рубцовым. Андрэй — чалавек адметны, бо ведае, што такое радасць жыцця, і гэту радасць здабывае сам. Андрэй умее працаваць, зарабляць (!) грошы. У Лацінскай Амерыцы мае кветкавы бізнес, упрыгожвае Іспанію эквадорскімі кветкамі. Ён мудра ўсміхаецца, згадваючы свой год нараджэння 1967-мы, сваю вучобу ў Мінскім інстытуце замежных моў, свой удел у палітычным жыцці Беларусі на зыходзе нядаўніх 80-х... У Бярозе жыве яго сям'я — бацька (дарэчы, рускі па паходжанню), маці і чацвёра братоў. У Андрэя, што цікава, не беларускі, а расійскі пашпарт. І вось гэты расійскі грамадзянін — адраджэнец кшталту Вацлава Ластоўскага. Ён упэўнена і натхнёна працуе над беларуска-іспанскім слоўнікам... Мы блукалі ад кавярні да кавярні па начным Мадрыдзе. Я ўспамінаў тыя дыялектныя словы, якія Андрэю былі невядомыя, і ён увесь час іх занатоўваў. Чалавек працавіты і незалежны, Андрэй абавязкова выдасць свой цудоўны слоўнік...

У Парыжы была сустрэча з Вірджыніяй Шыманец, перакладчыцай прозы Вольгі Іпатавай. Спадарыня Вірджынія — беларуская хрызантэма на Елісейскіх палях. Вялікая была мне радасць з яе вуснаў (у цэнтры Парыжа!) слухаць мову Купалы...

Калі наш цягнік прыбыў у Брусель, на вакзал сустрэць беларускіх пісьменнікаў прыехалі Лаўрэн Клыбік, Янка Жучка, Аляксей Арэшка, а таксама спадарыня Зоя Смаршчок-Жалязоўская. Такая шчырая ўвага мяне асабіста вельмі кранула. Беларусь для гэтых велікадушных людзей — краіна вечная. Першы мой вольны вечар у Бруселі быў упрыгожаны прысутнасцю Янкі Жучкі і Аляксея Арэшкі. Яны гаварылі толькі пра Беларусь. Я слухаў і ўспамінаў геніяльныя радкі Янкі Купалы:

*І няма на свеце так вялікай*
*меры,*
*І няма на свеце так каваных*
*дзвераў,*
*Каб хоць на часіну ў будні*
*ці ў нядзелі —*
*Беларусь са мною разлучыць*
*пасмелі!*

А назаўтра Аляксей Арэшка павёз мяне да Ларысы Кірыс, якая родам з майго Давыд-Гарадка. У Ларысы — шыкоўная, аздобленая італьянскім мармурам крама, над якою — утульная кватэра. А каля Бруселя, у Тэрвюрэне, файны дом...

Ларыса пакінула Давыд-Гарадок у 1959-м годзе, ёй было тады толькі трынаццаць. Аўтарам і яе лёсу, калі так можна сказаць, з'яўляецца ўсё тая ж другая сусветная вайна. Ларысіна маці ў Нямеччыне, куды была вывезена, пазнаёмілася з маладым бельгійцам. Пасля вайны шчаслівыя маладыя неабачліва прыехалі ў БССР. Бельгіец, як "замежны шпіён", неўзабаве апынуўся ў канцлагеры. Дзякуй Богу, застаўся жывы, вярнуўся і дамогся таго, каб вывезці сваю сям'ю з камуністычнае імперыі. Па першым часе ў Бруселі Ларысе было нясоладка. У школе з яе смяяліся, зневажалі — кажучы па-давыд-гарадоцку: копнячылі. Маўляў, глядзіце, у яе й сукенка нейкая не такая, і мовы яна нашай не ведае... "Я тады сціскалася ўся, — расказвала Ларыса, — хавала слёзы, адно думала: нічога, і сукенка ў мяне будзе добрая, і мову вашу вывучу, і разбагацею, стану на свой хлеб, і тады вы не будзеце мяне копнячыць, а будзеце называць мяне мадам!.."

Усё, пра што думала і марыла мая зямлячка, здзейснілася, бо працавітасць і цярплівасць — аснова яе характару, як і аснова характару Давыд-Гарадка, Беларусі і ўсёй нашай нацыянальнай эміграцыі.

Гэта, да слова сказаць, і першая асаблівасць, галоўная рыса Інгі-Ліны Ліндквіст, шведскай пісьменніцы, якая таксама мусіла пакінуць Беларусь у трынаццацігадовым узросце. Так, так — Інга-Ліна Ліндквіст, імя якой прагучала на пачатку гэтай гутаркі, таксама наша зямлячка. Яна нарадзілася ў Барысаве, жыве цяпер у Мальмё, складае вершы па-шведску і ніколі не забывае (і не забудзе!) пах роднага бэзу...

Дарэчы, падчас гэтага падарожжа нас вельмі гасцінна прымалі ў Вільні — і ў нашай амбасадзе, і ў гімназіі імя Францішка Скарыны. Пасля адной з такіх сустрэч Інга мне сказала: "У Вільні пахне беларускім бэзам..."

*З цыкла "Вершы для спадарыні Эл"*

* * *

**Ты заставайся маёй і чужой,**
**Я застануся тваім і чужым...**
**Дым Кальварыйскай плыве**
**над табой,**
**І нада мною плыве той жа дым.**

**Наша цярпенне згубіла свой тор;**
**Наша цярпенне — тэатр**
**закрыцця...**
**Як і раней, калыханкай ад зор**
**Ціха анёл суцяшае дзіця.**

**Ты авалодала мной,**
**як струной,**
**Ды не пакінула ў сэрцы сваім...**
**Дым Кальварыйскай плыве**
**над табой,**
**І нада мною плыве той жа дым.**

**Ноч — неспакоем аздоблены**
**дол;**
**Дзень — супакоем аздоблены**
**груд...**
**Плача дзіця, і гаворыць анёл:**
**"Слёзы ратуюць яго ад пакут..."**

**Свет аднаўляецца,**
**як Парфенон;**
**Сон выпіваецца, быццам віно...**
**Дым застаецца — празрысты**
**палон**
**І Кальварыйскай празрыстае дно.**

* * *

**Цябе кахалі іншыя, і я**
**Цябе кахаў таксама і кахаю...**
**У Менску, дзе не ўчуеш салаўя,**
**Ёсць салаўіная пасцель мая,**
**І толькі ў Менску я цябе чакаю.**

**Табе інакшае імя знайду**
**У сне ці ў гістарычным фаліянце!**
**Забудзь ранейшую сваю бяду,**
**Пчаліным золатам скажы: іду...**
**Мелісаю з'явіся — у верандзе...**

**Нам дадзена апошняе, відаць:**
**І ў старасці, якая надыходзіць,**
**І вусны з вуснаў мёд**
**перадаваць**
**І Менск, яшчэ савецкі,**
**ўспамінаць, —**
**Менск мёду ў 91-м годзе!**

**Я ведаю: няма ў жыцці жыцця,**
**Калі жыццё пазбаўлена кахання...**
**Каханне — наша роднае дзіця,**
**Яно ўзышло з мядовага лісця;**
**Яно прыйшло з бясконцага**
**вяртання.**

ЗАПРАШЭННЕ ДА КОНКУРСУ




***У КРАСАВІКУ 2001 ГОДА Ў НАЦЫЯНАЛЬНЫМ МУЗЕІ ГІСТОРЫІ І КУЛЬТУРЫ БЕЛАРУСІ АДКРЫЕЦЦА ВЫСТАВА "СВЕТ ВАЧЫМА БЕЛАРУСКІХ ДЗЯЦЕЙ XX СТАГОДДЗЯ".***

**На выставе будуць прадстаўлены творы дзяцей ад першых і да апошніх гадоў XX стагоддзя.**

**Музей і Аргкамітэт выставы звяртаюцца да ўсіх, у каго захаваліся свае дзіцячыя малюнкі, малюнкі бацькоў, дзядоў, прадзедаў, родных і знаёмых, калі яны былі дзецьмі ці падлеткамі (да 17 гадоў уключна). Дасылайце ці прыносьце гэтыя творы ў Нацыянальны музей гісторыі і культуры Беларусі. Захаванасць малюнкаў гарантуецца.**

**Да твораў трэба прыкласці кароткую біяграфію і фотаздымак аўтара (пажадана часу стварэння малюнкаў).**

**Творы прымаюцца да 1 лютага 2001 года ў цвёрдым канверце, не складваючы, на адрас: 220050, г. Мінск, вул. К. Маркса, 12. Нацыянальны музей гісторыі і культуры Беларусі.**

**Тэлефоны для даведак: 206-33-17, 227-06-33, 227-30-06.**

**ПАВОДЛЕ КНІГІ "ЛІСТЫ З ХЕЛЬСІНКІ"** *(Пачатак у № 48)*

Маляваў Васіль БЫКАЎ

# ВОДГАЛАС



*На сёмуху ў саборы аж два багамольцы...*



*Берагавая камяні — месца рыбаловаў.*



*— Ай, грыбы! Як у Налібаках...*




*Па дарозе на кірмаш...*

Рыгор БАРАДУЛІН

# ЛІСТЫ З ВУШАЧЫ

### *ЛІСТ ВОСЬМЫ*

У сьвет усьлед за намі йдзе яна,
Рака маленства, верная мясьцінам,
Якімі і ў апошніх снахісьці нам,
Раку гаркоты выпіўшы да дна.

Рака маленства, перад ёй усе
Мы — дзеці, і сіўцы, і маладзёны,
І паркі ўпарта круцяць верацёны,
Рака сама халодна лёс нясе.

Рака надзеі чуліць чаўнара,
Які вядзе свой човен да вытокаў.
І шэпчуць хвалі,
Каб ня чулі крокаў
Той, што прашэпча кожнаму: пара...

*11 лістапада 1998 г.*

### *ЛІСТ ДЗЕВЯТЫ*

Каб хоць неяк замаліць грахі
І сваё й сякеры,
Я, магчыма,
Папрашуся ў ветра ў пастухі —
Пасьвіць лес зялёнымі вачыма.
Дрэвы мяне прымуць.
А ці не, —
Буду я сачыць
За імі ўсімі
У маёй апошняй старане,
Покуль позірк мой
Ня стане сіні...

*6 ліпеня 1999 г.*

### *ЛІСТ ДЗЕСЯТЫ*

А над Вушачаю аблокі
Цябе чакалі два гады,
І закідалі невады,
І вабілі абшар высокі,
Каб лёгка вёў тваё сьляды

Туды, дзе першы сум чакае
І пад ільдом,
І пад травой,
Дзе захлынае з галавой
Усё як ёсьць нудзьга начная
Палыннай хваляю сівой.

Ці хвалі мы,
Ці толькі крокі,
Што набліжаюць да бяды,
Хоць і чакалі два гады,
Адказу не дадуць аблокі.
Адказ расьце.
Ён малады.

*18 ліпеня 1999 г.*

### *ЛІСТ АДЗІНАЦЦАТЫ*

Мясьціны родныя
Штогод далей
З вачэй тваіх
У памяць уцякаюць.
Дзе вір круціла,
Захрасае глей
І туманы
Цюкуюцца цюкамі.

Ты сам свае мясьціны
Кожны раз
Зьнішчаеш, бо
Ня крыўдзіцца ня ўмееш
На той, што
Адыйшоў з табою, час.
Гаворыць забыцьцё.
А ты нямееш...

*23 ліпеня 1999 г.*

### *ЛІСТ ДВАНАЦЦАТЫ*

Свабодны ад будкі і ад ланцуга
Сабака брэша ў ноч глухавата.
Нібы пытае, чыя чарга
Завыць, каб забыць,
Што жыцьця нябагата.
Завыць, каб забыць
На брахню, на грызьню,
На здрадную строму,
На верную яму.

А можа, я ў хаце
Заціхлай прысьню
Вясёлага бацьку,
Шчасьлівую маму!..

*2 жніўня 1999 г.*

### *ЛІСТ ТРЫНАЦЦАТЫ*

І радзіма можа
Стаць чужынай,
Мачыхай,
Што пасынкаў сваіх
Любіць падбадзёрыць
Лютай кпінай,
Покуль іхны голас
Ня заціх.

А віньць радзіму
Ці дарэчы!
Сядзе сум
У сэрца на куце.
Гэта на радзіме
Для сустрэчы
Ціха маці-й-мачыха
Цьвіце.

І выгнанец
Хоча на радзіму,
Хоць счужэлую
Але сваю.
Зябка ў сьцюжу
Коміну бяз дыму.
Бяз гнязда
Самотна салаўю...

*6 жніўня 1999 г.*

### *ЛІСТ ЧАТЫРНАЦЦАТЫ*

За каўнер небасьхілу
Змрок сьцюдзёна цячэ.
Рэшткі дня цэдзіць сад
Праз зялёнае сіта.
Маладая суседка
Ахрап'е сячэ.
Дыспут вечны сабакі
Вядуць дваравіта.

Цені прашчураў смутна
Снуюць нада мной.
Я вярнуўся ў сябе
Маладога, былога.
І яшчэ год адзін
Павярнуўся сьпіной
Да мяне.
І пакарацела дарога...

*9 жніўня 1999 г.*

### *ЛІСТ ПЯТНАЦЦАТЫ*

Звужаецца радзіма ды паціху
Перамяшчаецца ў тваю душу,
Як маці зь вёскі на зіму да сына
У горад, дзе ўжо рупіцца ня трэба
Пра дровы, пра ваду.
І год ад году
Зьмяркаюцца і вечарэюць межы
Ўспамінаў ранішніх,
Пакуль аднойчы
Радзіма абмяжуецца грудком,
Які травой ахвотна зарастае...

*12 жніўня 1999 г.*

### *ЛІСТ ШАСНАЦЦАТЫ*

Лагода восеньская пазная
Разьліта ціха і задумення.
Туга
Палетак свой дажынае.
Сябе травою ў снах
Бачыць сена.

Як стол жалобны,
Усё наўкольле.
Успомніць лета
Якраз нагода.
Маўчыць прырода.
І як ніколі
Гадоў сваіх незваротных
Шкода...

*29 жніўня 1999 г.*

# ЛІСТЫ ЗЬ МЕНСКУ

### *ЛІСТ ПЕРШЫ*

І думкі, і ўспаміны ёсьць,
Якія
Забыцца хочацца, а немагчыма.
І прывядзе язык дапытны ў Кіеў
Альбо ў вастрог
З шырокімі плячыма.
З-за кратаў думкі вырвуцца на волю.
Сябе ўспаміны ўспомняць адмыслова.
Душа ахвотна дасьць прытулак болю.
І да пары маўчаць згадзіцца слова.

Ня раскладзеш развагі па паліцах,
Бяздапаможныя драты і лі-
ны,
Каб у катоўнях памяці, ў цямніцах
Трымаць надзейна
Думкі і ўспаміны...

*28 жніўня 1998 г.*

### *ЛІСТ ДРУГІ*

Час возьмецца хрумстаць салому,
Калі мурог даскубе.
Ніхто не патрэбен нікому,
Апроч самога сябе.
Патрэбен,
Каб з ціхай журбою
Адно зразумець-такі,
Што людзі ўсе
Спаміж сабою —
Халодныя сваякі...

*9 верасьня 1998 г.*

### *ЛІСТ ТРЭЦІ*

Спартанцы зьбіраліся на вайну —
Вайстрылі мечы,
Прымервалі латы.
З усіх стаў у шарэнгу адну
Спартанец нягеглы,
Падслепаваты.
— Куды ты, нашто ты
Такі на вайне! —
Спытаўся нехта.
Нябога прызнаўся:
— Як іншай карысьці няма —
Аб мяне
Варожы затупіцца меч
Прынамсі...
І ў дні,
Калі душы падпальвае змрок,
Калі цяжарнее
Жахам калосьсе,
Прымаюць сьмерць
І паэт, і прарок,
Каб меней
У ворага куль засталося!

*27 верасьня 1998 г.*

### *ЛІСТ ЧАЦЬВЕРТЫ*

Усіх пакараньняў
Ня зьлічаць вякі.
І людзі ня зьлічаць самі.
Дзе грэх, як пух,
Дзе, як камень цяжкі!
Дзе вязьні зь ціхімі галасамі!

П'яніць
Нявінным віны віно.
Гняце немата
Стараны нялюдзімай.
Цяжэйшае ўсё ж
Пакараньне адно —
Пакараньне Радзімай...

*28 верасьня 1998 г.*

### *ЛІСТ ПЯТЫ*

Трымалі агонь у жалезнай клетцы,
А ён вырываўся на волю хутчэй
І, клопатам не абцяжараны, Ўлегцы
Гуляў у прадольні вачэй і начэй.
Агонь тушылі, агонь душылі,
Агонь лавілі,
А ён выжываў.
А ён абвіваўся ў рэха ля шыі
І за падстрэшшамі віжаваў.

Агонь ніколі ня ўмеў вініцца
І сыпаў жар
У далоні хлусьні.

...І ўсе разлады і таямніцы
Палілі самі сябе на агні...

*20 лістапада 1998 г.*

### *ЛІСТ ШОСТЫ*

У душы мае свой закутак
І туды ня пускае нікога
Катаржнік пажыцьцёвы —
Смутак.

Недзе блізка жыве трывога.
Недзе блізка радасьць рагоча.
Гурбы выгарбілі першапутак.

Ды пра волю і думаць ня хоча
Заказаны ў пакуту смутак...

*19 сьнежаня 1998 г.*



*Сяброўскае вогнішча.*



*Зваблівы лёд Балтыкі.*




*У берлінскім аэрапорце. Наблыталі з білетамі. І гэта — Finair...*

**АЛІМПІЙЦЫ**

# ЖАЛЕЗНЫЯ ГУЛЬНІ ЯНЫ

*ДАВЕДКА:*
*Яніна КАРОЛЬЧЫК.*
*Алімпійская чэмпіёнка Сіднэя ў штурханні ядра.*
*Нарадзілася 26 снежня 1976 года ў вёсцы Храшчановічы Свіслацкага раёна.*
*Скончыла Гродзенскае вучылішча алімпійскага рэзерву. Зараз студэнтка 4-га курса Акадэміі фізічнага выхавання і спорту ў Мінску.*
*Рост — 184 сантыметры, вага — 88 кілаграмаў.*




### НА РАЗДАРОЖЖЫ

Мечыслаў Аўсянік, трэнер Яніны Карольчык, цяжка захварэў і памёр у тым узросце, калі, як кажуць, жыць ды жыць...

Нагадваць пра ролю трэнера ў жыцці спартсмена, здаецца, няма сэнсу. Усё зразумела і так. Гэта як звязка ў гарах. Спатыкнуўся адзін — прапаў другі. Калі настаўнік адпусціць гэту звязку ці па нявопытнасці або зазнайству яе абрэжа спартсмен, то апошні паляціць у бездань. Так у жыцці і было. Колькі спартсменаў пайшлі ў нябыт пасля расстання з трэнерам!

Пасля смерці Мечыслава Мікалаевіча, праплакаўшы некалькі дзён, Яна спачатку вырашыла вярнуцца ў Гродна. Але ехаць з Мінска, да якога прывыкла за тры гады, ужо не хацелася. І калі шалі вагаў пераважыла другое рашэнне — занялася пошукамі трэнера ў сталіцы. Па парадзе свайго першага трэнера Рыгора Сініцына прыйшла да Аляксандра Яфімава.

Напрыканцы сакавіка 1999 года пачалі рыхтавацца да чэмпіянату свету. Часу на падрыхтоўку практычна не заставалася. Але менавіта там павінна было вырашыцца галоўнае пытанне: "Ці ўдасца паказаць вынік, дастойны Алімпіяды?"

Перад Алімпіядай у Сіднэі, пачынаючы з сярэдзіны жніўня, Карольчык ужо рэгулярна на кожнай трэніроўцы адпраўляла снарад да 20 метраў.

...У часы Савецкага Саюза ў трэнерскім асяродку штурхацеляў ядра існавала перакананне: калі спартсмен на трэніроўцы штурхае на 20 метраў, то на спаборніцтвах абавязаны паказаць 19,50.

— Я ж, — гаворыць Яфімаў, — заўсёды даказваў, што трэба паказаць вынік не горшы на 0,5 метра, а лепшы, гэта значыць, 20,50. Што ў нас з Янай і атрымалася.

Вынік Карольчык у Сіднэі — 20,56 метра.

### ЗА КРОК ДА П'ЕДЭСТАЛА

Чэмпіянат свету ў Севільі ў 1999 годзе беларуская каманда правяліла з трэскам! Але ўжо тады лепшай у камандзе была Яніна Карольчык, якая заняла 4-е месца.

...У Іспаніі стаяла страшэнная спёка. Пасля беларускага дажджлівага надвор'я ўсе хадзілі, як звараныя, і думалі толькі пра адно: "Хутчэй бы ўсё гэта скончылася!"

Спачатку не ішлі справы і ў Яніны. Сарваліся дзве спробы, і пад пагрозай было нават трапленне ў фінал, а значыць, і ліцэнзія на Алімпіяду. Заставалася трэцяя, апошняя...

У галаву прыйшла думка, што нічога ў спартыўным жыцці ў яе не атрымаецца.

Успомніла, як у 14 гадоў паехала з роднай хаты ў такі, здавалася, далёкі, вялікі і незнаёмы Гродна. А зараз бы гуляла ў лесе ля хутара, збірала грыбы ды ягады, дапамагала б бацькам па гаспадарцы...

І прасіла ж яна маму — Мальвіну Паўлаўну, літаральна ўпрошвала: "Не адпускайце мяне! Не хачу нікуды ехаць"! Пабегла тады ў спальню і доўга плакала. Пераконваць і ўпрошваць прыйшлі ўсе: і дырэктар школы, і трэнеры, і настаўнікі. "Не спадабаецца — вернешся назад. Нікуды твой хутар не дзенецца!"

Падышоў бацька Здзіслаў Міхайлавіч: "Рашай, дачка, сама"... А які тут выбар, калі табе толькі 14 гадоў...

Тады падумала: "Паеду, паспрабую. Калі што — вярнуся"...

І вось зараз Іспанія, спёка і дзве няўдалыя спробы.

— Правалю — абавязкова вярнуся. Пайду працаваць швачкай, як мама.

...Сціснула зубы, сабрала ў кулак волю, усе сілы, адштурхнулася, здавалася, паляцела ўслед за ядром...

А ўсяго 17,90...

І о цуд! Гэтых метраў хапіла, каб апынуцца ў фінале.

Гэта неверагодна, але ад 13-га "непраходнага" месца Карольчык аддзяліў толькі адзін сантыметр. Тады яна і падумаць не магла, што гэты сантыметр стаў першай вяхой адліку на шляху да золата ў Сіднэі.

...У Севільі медаль Яніне вопытныя саперніцы не аддалі. 108-міліметровае ядро далей за 19,17 метра ляцець "не пажадала". А гэта быў толькі чацвёрты вынік...

У спартсменаў існуе цвёрдае перакананне: "Лепш месца з 6-га па 9-е, чым чацвёртае". Яне, якая яшчэ дзесяць хвілін назад думала пра фінал, раптам стала крыўдна, што да медаля не хапіла зусім трошкі, нейкіх 26 сантыметраў.

...Па дарозе са стадыёна да горла падступіў камяк і душыў, душыў, пакуль раптам у аўтобусе не пацяклі слёзы, і тут ужо рыдала столькі, колькі накапілася ў душы: ад перагрузак, гэтых мучэнняў ад спёкі і трэніровак, адсутнасці нармальнага чалавечага жыцця, ад крыўды за нейкія лічаныя сантыметры, якіх не хапіла да медаля.

А значыць перад Алімпіядай трэба ўсё пачынаць спачатку, і ніхто не дасць гарантый, што падобнае не паўторыцца ў Сіднэі.

"Не паўторыцца! — раптам вырашыла, як адрэзала. — На Алімпіядзе буду трэцяй!"

І на душы стала лёгка. Слёзы забралі з сабою ўсё, што было ў тым, ужо "мінулым" жыцці, уключаючы чэмпіянат свету...

### МАРОЖАНАЕ — ЛЯКАРСТВА АД... ХВАЛЯВАННЯ

Пасля Іспаніі каманда па лёгкай атлетыцы, спартсмены, трэнеры, федэрацыя на чале з яе прэзідэнтам Аляксандрам Руцкіх падвергліся жорсткай крытыцы. На гэтым відзе спорту ў Беларусі ледзь не паставілі крыж...

Ужо пасля Алімпіяды Руцкіх прызнаўся, што правал у Іспаніі прымусіў мабілізавацца, забыць пра поспехі сусветнага першынства 1995 года ў Гётэборгу. Беларуская каманда тады заняла другое (!) месца ўслед за камандай ЗША. Гэта была сусветная сенсацыя.

Было прынята рашэнне і ў Сіднэй везці толькі тых спартсменаў, хто пакажа ў сезоне вынік, які б дазволіў папасці ў васьмёрку мацнейшых у свеце. Яніна была ў іх ліку...

Наступілі будні сур'ёзнай, штодзённай працы.

— Трэнеру было цяжка са мною, — цяпер ужо з усмешкай расказвае Яніна. — Дыск я кідала з павароту, а ядро трэба штурхаць са скачка. Аляксандру Мікалаевічу прыйшлося памучыцца. Ды і мне пераключацца было складана.

— На Алімпіядзе, — дзеліцца сакрэтам Аляксандр Яфімаў, — мы рыхтаваліся закончыць спаборніцтвы ў першай ці другой спробе. Як запасны варыянт — пятая-шостая спроба...

Спачатку так і ішло. Першая спроба Яны — і чатырохкілаграмовае ядро паляцела на 19,43 метра.

— Тады я падумала, што з такім вынікам медаль ужо будзе абавязкова, — прызналася Яніна.

А пасланы расіянкай Ларысай Пеляшэнка снарад адляцеў на 19,92 метра. Здавалася, ужо ніхто не зможа штурхнуць ядро далей...

— Пеляшэнка не хапіла сілы духу, — лічыць Аляксандр Яфімаў. — Яна ўжо паверыла, што першая. А вешаць медаль на шыю да заканчэння спаборніцтваў не варта нікому, нават самаму выдатнаму спартсмену... Мы ж у жалезныя гульні гуляем. А ядро не любіць мяккасці, слабасці і самаўпэўненасці. Тут трэба праявіць моц, жорсткасць, перамагчы самога сябе...

...Казачнай прыгажосці прыродныя мясціны адарылі сілай, здароўем, прыгажосцю тую, што ў 2000-м годзе пасля апошняй спробы на аўстралійскім стадыёне ў Сіднэі радасна ўскіне рукі ад шчасця. На маё пытанне, пра што думала ў час спаборніцтваў (шэсць спроб у фінале — часу для думак дастаткова), Яніна адказала, што хацела... марожанага.

— ?!

— Калі я перад фіналам размiналася ў сектары, раптам бачу: ідзе прэзідэнт федэрацыі лёгкай атлетыкі Аляксандр Руцкіх і спакойна есць марожанае. Мне так захацелася марожанага!

Я нават раззлавалася: "Трэба ж! Тут фінал, усе нервы на мяжы, а ён спакойна есць, быццам бы ўжо ўсё прайшло і няма праблем". А потым гляджу на яго: ён усміхаецца, і мне так спакойна стала. Усё напружанне знікла. Я раптам зразумела, што Алімпіяда — гэта нічога страшнага, так — звычайныя спаборніцтвы...

А тут яшчэ падышла прэзідэнт Саюза спартсменаў Беларусі Марыя Іткіна і гаворыць: "Яна, штурхай, як на трэніроўцы"...

І ў мяне псіхалагічна ўсё стабілізавалася. А тое, што перамога прыйшла ў шостай спробе, дык у Пеляшэнкі таксама была шостая і ўжо пасля маёй...

### ПАСЛЯСЛОЎЕ

Калі ўявіць увесь беларускі спорт як адно вялізнае дрэва, то лёгкая атлетыка на ім — вялікая зялёная галіна. Хочацца спадзявацца, што гэтае дрэва і далей будуць дагледаць людзі: трэнеры, спартсмены, кіраўнікі беларускага спорту, каб маленькая галінка з назваю "штурханне ядра" зелянела і прыносіла вынікі.

А рабіць гэта з кожным годам складаней і складаней па многіх прычынах. Адна з іх — адсутнасць асобнай залы для трэніровак...

Калі гэты матэрыял быў амаль гатовы, я прыйшоў на першую пасля Алімпіяды трэніроўку Яніны Карольчык.

У вялікай спортзале трэніравалася чэмпіёнка і... гандбалісты. За варотамі вісела вялізная сетка, а за метр (!) ад яе, тварам да сеткі, стаяла алімпійская чэмпіёнка і выконвала практыкаванне — па заданню трэнера кідала праз сябе ядры. А гандбалісты, атакуючы вароты, кідалі мячы.

На маё пытанне: "Ці не перашкаджае гэта табе, так жа нельга трэніравацца?!" — сціплая і лагодная спартсменка адказала: "Не, я ўжо прывыкла".

Няўжо менавіта ў такіх умовах павінен выхоўвацца жалезны характар алімпійскай чэмпіёнкі?

**Пётр РАБУХІН.**

**«Голас Радзімы»**

**Галоўны рэдактар**
**Наталля САЛУК**

**ЗАСНАВАЛЬНІКІ:**
**Дзяржаўны камітэт па справах рэлігій і нацыянальнасцей Рэспублікі Беларусь; Беларускае таварыства дружбы і культурнай сувязі з замежнымі краінамі; Беларускае таварыства па сувязях з суайчыннікамі за рубяжом "Радзіма".**

**РЭДАКЦЫЯ:**
Намеснік галоўнага рэдактара **Галіна УЛІЦЁНАК.** Адказны сакратар **Таццяна КУВАРЫНА.** Рэдактар аддзела — член рэдкалегіі **Яўген ЛЕЦКА.** Рэдактар аддзела **Алена СПАСЮК.** Аглядальнік **Леанід МАРАКОЎ.** Спецыяльныя карэспандэнты **Яўген КАЗЮЛЯ, Алесь МЯСНІКОЎ, Нэлі ПРЫВАЛАВА.** Рэдактар-перакладчык **Святлана КАРПУЧОК.** Стыльрэдактар **Ірына КАЗЛОВА.** Тэхнічны рэдактар **Данута РАКАВЕЦ.**

**НАШ АДРАС: 220005, Мінск, пр. Ф. Скарыны, 44.**

**ТЭЛЕФОНЫ: (+375-17) 213-31-97 (тэл.-факс), 213-32-80, 284-76-56, 213-37-82.**

Пазіцыі рэдакцыі і аўтараў, матэрыялы якіх друкуюцца на старонках «Голасу Радзімы», не заўсёды супадаюць.

Рэгістрацыйнае пасведчанне № 81.
Падпісны індэкс у Беларусі 63854.
Тыраж 1 678 экз.
Зак. 3033.
Падпісана да друку 4.12.2000 г. у 12.00.

Газета набрана, звярстана і аддрукавана ў друкарні «Беларускі Дом друку». (220041, г. Мінск, пр. Скарыны, 77).